№ 92 (4139)

25 лістапада 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***



НУ І НУ!

## Як беларусы ўзгадалі рэферэндум

Фота: svaboda.org

Учора на сталічнай плошчы Свабоды прайшло мерапрыемства, якое нагадала пра рэферэндум 20-гадовай даўніны. Напярэдадні палітыкі **Уладзімір Някляеў** і **Мікалай Статкевіч** заклікалі прыйсці на плошчу. Заяўку на правядзенне мерапрыемства яны не падавалі, але паведамілі ў Мінгарвыканкам пра свой намер *"правесці 24 лістапада масавую акцыю"*.

У выніку на акцыю прыйшло ўсяго каля 100 чалавек – разам з дзясяткамі журналістаў і сілавікамі ў цывільным. Такая вось сумная арыфметыка…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## Паставілі ўльтыматум?

*Візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву пакінуў больш пытанняў, чым даў адказаў.*

Першае, што кінулася ў вочы: візіт Аляксандра Рыгоравіча ў Маскву расійскія федэральныя тэлеканалы праігнаравалі, інфармацыі пра сустрэчу лідараў Беларусі і Расіі, можна сказаць, на расійскім ТБ не было.

Афіцыйны Мінск па выніках сустрэчы таксама нібы вады ў рот набраў. На сайце Аляксандра Лукашэнкі ёсць толькі невялікае паведамленне, у якім утрымліваецца шэраг дыпламатычных штампаў кшталту таго, што ва ўмовах эканамічнага крызісу дзве краіны павінны аператыўна рэагаваць на выклікі, а таксама пра важнасць гандлёва-эканамічных адносін дзвюх краін.

Вядома, што Аляксандра Лукашэнку Уладзімір Пуцін у маскоўскім аэрапорце не сустракаў. Расійскі прэзідэнт у гэты час быў заняты на "Форуме дзеянняў" Агульнарасійскага народнага фронту. І ўбачыліся Лукашэнка з Пуціным толькі падчас віншавання з юбілеем расійскага Патрыярха Кірыла. І толькі позна вечарам, можна сказаць, праз коску, адбылася сустрэча Пуціна і Лукашэнкі.

Ці азначае гэта, што візіт афіцыйнага беларускага лідара ў Маскву быў дарэмным?

У каментарыі для "Народнай Волі" палітолаг **Юрый Царык** адзначыў:

– Відавочна, што ніякага прарыву ў беларуска-расійскіх адносінах сустрэча не прынесла, аднак думаю, што сітуацыя асабіста для кіраўнікоў дзвюх краін праяснілася, – сказаў ён. – Паводле вынікаў візіту ў публічную прастору трапіла не вельмі шмат інфармацыі. Але нельга выключаць, што ў Маскве Аляксандру Рыгоравічу быў пастаўлены своеасаблівы ўльтыматум, які афіцыйны Мінск зараз можа абдумваць. І ўльтыматум гэты можа тычыцца ваенна-палітычнага супрацоўніцтва дзвюх краін. Не выключана, што ў Беларусі могуць з'явіцца новыя расійскія ваенныя базы. Апублікавана інфармацыя аб тым, што Мінабароны Расіі аб'явіла тэндар на грузаперавозкі тэхнікі ўбок Беларусі. Размова ідзе пра некалькі тысяч вагонаў, а гэта можа азначаць перадыслакацыю як мінімум адной арміі ў нашу краіну. Не думаю, што гэта звязана з вайсковымі вучэннямі "Захад-2017", бо, сыходзячы з досведу аналагічных вучэнняў, якія адбываліся раней, колькасць вайсковай тэхнікі, якая брала ў іх удзел, вымяралася лічбай дзве сотні вагонаў, лік не ішоў на тысячы вагонаў.

**– Што, на вашу думку, Аляксандру Лукашэнку маглі паабяцаць узамен?**

– Калі казаць вобразна, то, хутчэй за ўсё, паабяцалі "моцна не біць". Размова не ідзе пра торг, размова, я думаю, ідзе пра ўльтыматум. Сітуацыя такая: у Расіі цудоўна разумеюць, што эканамічная сітуацыя ў нашай краіне не самая лепшая, што Беларусь у эканамічным плане і так моцна залежыць ад Расіі, таму нешта нам прапаноўваць расіянам ніякага рэзону няма. Нават паслаблення ў нафтавым канфлікце нам чакаць не выпадае, а, як вядома, у трэцім квартале Расія скараціла пастаўкі нафты ў Беларусь з 5,3 млн тон да 3,5 млн і пагражае іх яшчэ зрэзаць. Расія па-ранейшаму стаіць на ўмовах, якія Беларусь не задавальняюць.

Адсутнасць канкрэтнай інфармацыі сведчыць пра тое, што афіцыйны Мінск, хутчэй за ўсё, узяў час на роздум.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

В НОМЕР!

## Европарламент сказал свое слово

По информации *БелаПАН,* в резолюции отмечается, что в Беларуси по-прежнему появляются политзаключенные, преследуется оппозиция, применяется смертная казнь.

В резолюции подчеркивается, что с 1994 года в стране не было свободных и честных выборов, а попытки добиться этого при проведении президентских и парламентских выборов в 2015-м и 2016 годах оказались недостаточными.

За принятие резолюции проголосовали 468 депутатов, 21 – против и 93 – воздержались.

ТЫМ ЧАСАМ

## Пра газ размова не ішла

Афіцыйныя прадстаўнікі з расійскага боку каментарыяў па выніках сустрэчы Пуціна і Лукашэнкі амаль не давалі.

Намеснік старшыні "Газпрома" Валерый Голубеў паведаміў "Інтэрфаксу", што газавае пытанне ў ходзе сустрэчы кіраўнікоў Расіі і Беларусі ўвогуле не абмяркоўвалася. В.Голубеў сказаў таксама, што Беларусь да гэтага часу не аплаціла доўг за газ. *"Расійскі і беларускі бок па-ранейшаму не ўрэгулявалі пытанне аб запазычанасці за пастаўкі газу"* – дадаў ён.

Дарэчы, у новым мемарандуме еўрааблігацый "Газпрома" паведамляецца, што за перыяд са студзеня па верасень 2016 года беларускія спажыўцы назапасілі запазычанасць за пастаўкі газу ў памеры 340 млн долараў.

СКАНДАЛ

## Які ж гэта святар?!



Здавалася, такое немагчыма. Але….

У Гатаве, што пад Мінскам, затрыманы святар праваслаўнага прыхода **Канстанцін БУРЫКІН,** з 18 лістапада ён знаходзіцца пад вартай. "Бацюшку" падазраюць у захоўванні зброі. Да таго ж вядома, што ён з'яўляецца сябрам расійскай нацысцкай арганізацыі "РНЕ" і мае на целе наколкі ў выглядзе фашысцкай свастыкі і арла трэцяга рэйха.

Акрамя духоўнай дзейнасці Канстанцін Бурыкін па сутнасці кіраваў федэрацыяй паўэрліфтынгу, якую намінальна ўзначальваў палкоўнік міліцыі старшыня БФСТ "Дынама" **Генадзь КАЛЕСНІК**. Дарэчы, Бурыкін змясціў на лагатыпе спартыўнага клуба выяву Ісуса Хрыста са штангай на плячах.

Навіна пра затрыманне святара выклікала розгалас сярод мясцовага насельніцтва. Каля зачыненага храма, які быў пабудаваны з дапамогай Бурыкіна, людзі па-рознаму выказваліся наконт гэтай падзеі. Усе, з кім давялося паразмаўляць, казалі, што не здагадваліся пра пазацаркоўныя справы "бацюшкі". Жанчыны казалі, што некаторыя з іх хрысцілі ў гэтай царкве сваіх унукаў і ціха пыталіся: "Можа, трэба схадзіць да іншага святара?" Пенсіянер **Васіль Фурсаў** сказаў "Народнай Волі": *"Я пра ягоныя свастыкі і зброю нічога не ведаў. Але яшчэ раней казалі, што ён захапляўся паляваннем. Ну як такое можа быць? Як гэта святар са зброяй едзе ў лес, забівае там жывёл?! А потым яшчэ нешта будзе казаць пра грахі? Мая ўнучка распавяла, што бачыла ў інтэрнэце фота, дзе ён з фашыстамі нейкімі рускімі. Што яны там задумалі, для чаго той святар трымаў зброю? У галаве не ўкладваецца"*.

Журналістам стала вядома, што не так даўно асоба Канстанціна Бурыкіна стала выклікаць нараканні сярод спартсменаў. Напярэдадні правядзення ў Беларусі чэмпіянату свету па паўэрліфтынгу, які запланаваны на 2017 год, 19 з 23 вядучых беларускіх спартсменаў адмовіліся супрацоўнічаць з Бурыкіным у любой форме, і такім чынам чэмпіянат аказаўся пад пагрозай зрыву. А між тым на яго правядзенне толькі Нацыянальны алімпійскі камітэт выдзеліў каля двух мільярдаў старых рублёў. Сродкі паступалі і з іншых крыніц. Было закуплена дарагое абсталяванне, але пазней высветлілася, што яно было вельмі кепскай якасці. Спартсмены напісалі калектыўны зварот у «Дынама» і НАК з патрабаваннем адхіліць Бурыкіна ад пасады.

Тым часам і некалькі соцень вернікаў звярнуліся да мітрапаліта Паўла з просьбай пазбавіць Канстанціна Бурыкіна сану. Людзей абурала, што Бурыкін ажаніўся другі раз, афіцыйна распісаўшыся. Але, згодна з правіламі, святарам другі шлюб забараняецца.

Пра Канстанціна Бурыкіна вядома, што ён нарадзіўся ў расійскім Омску. У Беларусь прыехаў, калі яму было 17 гадоў, бо тут ужо жыла яго сястра. Пазней у Мінск перабраліся з Расіі і ягоныя бацькі. Бурыкін ніколі не вучыўся ў духоўнай семінарыі. Святаром стаў таму, што пабудаваў храм у Гатаве.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ВІНШУЕМ!

## Марыя ЗАХАРЭВІЧ: «Я ніколі не сядзела дома!»



*Зорка Купалаўскай сцэны Марыя Захарэвіч дзень народзінаў святкуе двойчы. У дакументах яе памаладзілі на цэлы тыдзень!*
*"Мама сказала, што я нарадзілася 21 лістапада – на Міхаіла Архістраціга, – гаворыць актрыса. – А запісалі днём нараджэння 28 лістапада – мабыць, калі мяне хрысцілі. Так і атрымалася, што святкую два дні народзінаў…".*
*"Народная Воля" павіншавала народную артыстку Беларусі з юбілеем.*

**– Марыя Георгіеўна, а якія ў вас узаемаадносіны з узростам?**

– Нармальныя! Абсалютна гадоў не адчуваю, цьфу-цьфу-цьфу! Я і на радыё зараз была многа занята, запісвала новыя вершы. Мне на гэта сіл хапае. Дый трэба варушыцца! У тэатры вялікіх роляў ужо няма, таму трэба ўвесь час сябе бударажыць, падштурхоўваць наперад.

**– А натхненне адкуль на ўсе гэтыя справы?**

– Натхненне?.. Я ўсё жыццё працавала, ніколі не сядзела дома. Прывыкла рухацца. Дзякуй Богу, з гадамі гэта не прайшло. Наадварот, хочацца яшчэ нешта зрабіць. Для мяне наша беларуская літаратура, паэзія – такі клад! У мяне, напэўна, большая палова жыцця звязана з паэзіяй. Увогуле, гэта вялікі дар для кожнага акцёра ад нашых пісьменнікаў! Трэба карыстацца гэтым – і эмоцыі свае варушыць, і сэрца, і душу.

У мяне вельмі многа было сустрэч за тыя гады, што мы ездзілі па Беларусі. І на кожнай сустрэчы я чытала вершы, і нешта пра жыццё гаварыла, і з жанчынамі рознымі сустракалася. Слухала іх маналогі, цёплыя і добрыя словы. Гэта такі падарунак!

На адзін са сваіх мінулых юбілеяў я падрыхтавала кампазіцыю па вершах беларускіх паэтаў. І чырвонай ніткай там праходзіў лёс жанчыны. Не ведаю, можа, каму і сумна было на той вечарыне, бо паэзія – гэта ж праца. Вершы трэба слухаць. Над імі трэба думаць. Таму ў мяне юбілей быў не забаўляльны. Я і ў запрашальніку тады напісала: "Чаго папрасіла душа…"

**– А чаго сёння ваша душа просіць?**

– Каб нарэшце я трошкі спынілася і прысвяціла час сабе і сваім блізкім. Бо я вельмі мала ўвагі ім надавала. Лічу, што рабіла няправільна. Прыбягу дадому на пару гадзін, нешта зраблю – і зноў на працу. Здымкі, запісы, гастролі… Такі рытм толькі маладосць магла вытрымаць!

Але зараз, канешне, душа радуецца, што мае перадачы дагэтуль гучаць па радыё – амаль кожны дзень. І такія харошыя пастаноўкі! Я вось зараз уключыла "Канец бабінага лета" – вельмі прыемна слухаць і ўзгадваць акцёраў, якіх ужо няма. І ў самой мяне тут роля харошая, спяваю прыгожа… Ёсць маналог, дзе я гавару: "Божа мой, мне ўжо 50! І як бы ні жыла – у адзін момант праляцела жыццё! І чаго толькі не паспытала я ў сваім жыцці, колькі перажыванняў, колькі ўсяго!" Дык сяджу зараз слухаю і смяюся: 50 гадоў – гэта ж амаль маладосць!

**– Дзеці не крыўдуюць, што для вас праца заўсёды была на першым месцы?**

– Не, яны не ўмеюць крыўдзіцца. Бо вельмі добра ўсё разумеюць. І раслі самастойнымі. Я імі магу толькі ганарыцца. У першую чаргу яны харошыя людзі. І харошыя дзеці… Дзякуй Богу за ўсё!

**– Марыя Георгіеўна, а сваім жаноцкім лёсам вы задаволены?**

– Ой, пра гэта я ніколі не гавару... Дзякуй Богу, выхавала сына і дачку. Можна сказаць, адна. Мама мне дапамагала. Як бы я там ні жыла, але ўсё рабіла сама і нікому не скардзілася. Думаю, гэта было правільна.

***(Заканчэнне на 2-й стар.)***

ФОТАФАКТ

## Такіх трактароў у свеце ўсяго два

Можа, нарэшце, справы на Мінскім трактарным заводзе пойдуць угару.

Скандал з адкрыццём адрэстаўрыраванага помніка Леніну каля прахадной МТЗ засланіў іншую навіну. МТЗ у той дзень прэзентаваў новы трактар – «Беларус-4522».

Трактар з'яўляецца найноўшай распрацоўкай ААТ «МТЗ». Гэта самы магутны трактар у лінейцы прадукцыі завода і адзін з самых магутных колавых трактароў у свеце. Генеральны дырэктар прадпрыемства **Фёдар Дамаценка**, прадстаўляючы трактар, падкрэсліў: «*Такіх трактароў у свеце ўсяго два. Гэта новы ўзровень тэхнікі, адрозны па сваім канструктарскім рашэнні і тэхнічным увасабленні ад звыклых для нас трактароў*».

Новы трактар можна назваць гігантам. Яго магутнасць 450 конскіх сіл, ёмістасць паліўнага бака складае 650 л, трансмісія забяспечвае 16 перадач пярэдняга ходу і 8 перадач задняга ходу. На заводзе мяркуюць, што навінкай зацікавяцца краіны, якія маюць шырокія пасяўныя плошчы, напрыклад, Казахстан і Расія.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**



ЧУЛІ?

## У Мінск едуць чатыры міністры

Кіраўнік Міністэрства замежных спраў ФРГ **Франк-Вальтэр Штайнмаер** пацвердзіў падрыхтоўку сустрэчы кіраўнікоў МЗС «нармандскай чацвёркі» (Расіі, Украіны, Германіі, Францыі) у Мінску на наступным тыдні.

Раней кіраўнік МЗС Украіны **Павел Клімкін** паведаміў, што сустрэча «нармандскай чацвёркі» на ўзроўні міністраў замежных спраў можа адбыцца 29 лістапада.

ФАКТ

## Мінус 10 рублёў

Паводле дадзеных Белстата, налічаны сярэдні заробак працаўнікоў Беларусі ў кастрычніку склаў 722,9 рубля. Гэта на 10 рублёў менш налічанай сярэдняй зарплаты ў верасні.

Па курсе Нацбанка зараз беларусы атрымліваюць у сярэднім у месяц зарплату у памеры ўсяго толькі 378 долараў ЗША.

